№ 172 (1985)

Серада, 15 верасня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».

Кошт свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля


E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +23...+25, сонечна, уначы — +14...+16, дождж; у Брэсце ўдзень — +20...+22, дождж, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +18...+20, дождж, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +20...+22, сонечна, уначы — +14...+16, навальніца; у Гомелі ўдзень — +22...+24, сонечна, уначы — +17...+19, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +22...+24, сонечна, уначы — +15...+17, навальніца.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Прэзідэнт ПАСЕ: канстытуцыйны рэферэндум у Беларусі можа не адпавядаць дэмакратычным стандартам

*Прэзідэнт Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) Пітэр Шыдэр выказаў занепакоенасць наконт рашэння Аляксандра Лукашэнкі правесці рэферэндум наконт пытання зняцця абмежаванняў на колькасць прэзідэнцкіх тэрмінаў для адной асобы.*

Як паведаміла прэс-служба ПАСЕ, пра гэта Пітэр Шыдэр заявіў на пасяджэнні Асамблеі ў Страсбургу.

Як зазначаецца ў паведамленні прэс-службы, такая занепакоенасць звязана ў першую чаргу з "недэмакратычным" рэферэндумам, які быў праведзены ў Беларусі ў лістападзе 1996 года.

У заяве П.Шыдэра таксама падкрэсліваюцца тэндэнцыі, якія маюць месца ў Беларусі ў апошнія гады: "узмацненне дыктатарскага рэжыму, відавочны пераслед апазіцыйных груп і недзяржаўных арганізацый, напады на сродкі масавай інфармацыі".

**Марына РАХЛЕЙ.**

## У беларускім Міністэрстве замежных спраў — тэхнічныя непаладкі

*Як паведамілі ў прадстаўніцтве АБСЕ па свабодзе сродкаў масавай інфармацыі ў Вене, прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Міклаш Харашці дагэтуль не змог атрымаць беларускую візу.*

Аб сваім візіце ў Мінск сп. Харашці папярэдзіў міністра замежных спраў Беларусі Сяргея Мартынава і афіцыйнага прадстаўніка Беларусі ў АБСЕ Віктара Гайсёнка яшчэ ў ліпені. *"На працягу ліпеня і жніўня я пасьпяхова абмеркаваў дэталі візіту як з місіяй [АБСЕ] у Вене, гэтак і з МЗС у Мінску"*, — гаворыцца ў яго заяве. Спачатку па просьбе беларускіх улад візіт быў перанесены, каб сумясціць яго з практычным семінарам па праблемах СМІ. Потым была зменена структура семінара: яго прапанавалі правесці адначасова з сустрэчай М.Харашці з незалежнымі журналістамі. Калі пасля пэўнага часу сам семінар быў адменены, М.Харашці пацвердзіў, што ён *"усё яшчэ зацікаўлены ў паездцы ў Беларусь"*. Але, зрабіўшы афіцыйны запыт на атрыманне беларускай візы, не атрымаў ні адказу, ні візы.

Як патлумачыў БелаПАН прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных, 9 верасня М.Харашці быў праінфармаваны аб тым, што можа прыехаць у краіну ў любы зручны для яго час. *"Магчыма, адбыліся тэхнічныя непаладкі,* — сказаў А.Савіных. — *Аднак усе тэхнічныя працэдуры завершаны, і спадар Харашці можа наведаць Беларусь".*

**Марына РАХЛЕЙ.**

## Усё будзе культурна

*19—23 кастрычніка ў Беларусі адбудуцца Дні культуры Кітая.*

Як паведаміў БелаПАН начальнік упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Міхаіл Казловіч, у праграме Дзён культуры запланавана выступленне цыркавых акрабатаў Кітайскай Народнай Рэспублікі.

Нагадаем, што з 26 лістапада па 2 снежня 2003 года ў Кітаі прайшлі Дні культуры Беларусі, па выніках якіх быў падпісаны беларуска-кітайскі міжведамасны пратакол аб супрацоўніцтве ў галіне культуры на 2004—2006 гады. У пагадненні прапісаны гады, калі будуць праводзіцца абменныя дні культуры: Дні культуры Беларусі ў Кітаі запланаваны на 2005 год, а Дні культуры Кітая ў Беларусі — на 2004 і 2006 гады.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Курсы валют

*На 15 верасня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:*

1 долар ЗША — 2165 беларускіх рублёў
1 еўра — 2658,08
1 расійскі рубель — 74,10
1 аўстралійскі долар — 1517,77
1 балгарскі леў — 1359,03
1 дацкая крона — 357,36
1 СДР — 3175,97
1 ісландская крона — 30,32
10 японскіх іен — 197,31
1 казахскі тэнге — 15,99
1 канадскі долар — 1666,22
1 кувейцкі дынар — 7343,96
1 кыргызскі сом — 50,19
1 латвійскі лат — 4013,72
1 літоўскі літ — 769,76
1 малдаўскі лей — 180,57
1 нарвежская крона — 318,06
1 польскі злоты — 605,51
1 сінгапурскі долар — 1279,85
10.000 турэцкіх лір — 14,39
1 украінская грыўна — 407,18
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3897,32
1 чэшская крона — 84,23
1 шведская крона — 292,27
1 швейцарскі франк — 1722,83
1 эстонская крона — 170,51

**ЭКСПЕРТИЗА**

*Вячеслав ОРГИШ,*
*доктор философских наук*

# Зачистка Конституции,

## или О том, как Александр Лукашенко добивается права ходить на красный свет

*Воистину цинизм белорусской власти не знает пределов. Так (или примерно так) оценивает белорусская и международная демократическая общественность, средства массовой информации объявленный 7 сентября референдум, нацеленный на изъятие из действующей Конституции нормы, которая ограничивает время пребывания у власти одного человека 10 годами. Однако только ли об одном цинизме должна идти речь?*

### О чем просит «вождь»

Указом №431 Александр Лукашенко распорядился: ***"Вынести на республиканский референдум для принятия решения следующий вопрос:***

***"Разрешаете ли Вы первому Президенту Республики Беларусь Лукашенко А.Г. участвовать в качестве кандидата в Президенты Республики Беларусь в выборах Президента и принимаете ли часть первую статьи 81 Конституции Республики Беларусь в следующей редакции:***

***"Президент избирается на пять лет непосредственно народом Республики Беларусь на основе всеобщего, свободного, равного и прямого избирательного права при тайном голосовании".***

Как видно из цитаты указа, действующая Конституция подвергается радикальной авторитарной зачистке в одной из самых принципиальных частей — главе "Президент". Структура вопроса, который будет фигурировать в бюллетене на референдуме 17 октября, содержит две части. Каждая из них, согласно замыслу белорусского "кормчего", должна решить определенную задачу, связанную с его намерением сохранить личную власть после 2006 года. Попробуем выяснить юридическую состоятельность этого намерения.

Фактически в первой части Александр Лукашенко в слегка завуалированном виде обращается к гражданам Беларуси с просьбой. Если эту просьбу изложить открытым текстом, то получится примерно следующий воображаемый монолог. "Я такой белый и пушистый, — убеждает Александр Григорьевич, — такой заслуженный и незаменимый, что вам, люди, грех не разрешить мне поучаствовать в президентских выборах еще раз. Разумеется, вопреки норме Конституции, поскольку ст. 81 (ч. 1), будь она неладна, гласит: **одно и то же лицо не может занимать должность президента более двух сроков".**

Именно поэтому во второй части вопроса, выносимого на референдум, Александр Лукашенко вполне последовательно (с точки зрения его намерения править пожизненно) предлагает кастрировать эту злополучную ст. 81, которая вздумала путаться под ногами. Из предложенной им редакции статьи ограничение по срокам попросту выкинуто.

В этой связи, если у кого-то остаются сомнения относительно истинных планов инициатора референдума, советую повнимательнее вчитаться в третий пункт указа № 431. Там, между прочим, черным по белому записано, что решение, принятое референдумом, является неотъемлемой частью Конституции. Из этого следует, что в Конституции появится не только поправка к ст. 81 (ч. 1), но и норма, разрешающая лично Александру Лукашенко быть пожизненным кандидатом в президенты на всех будущих президентских выборах.

### Телега впереди лошади

Насколько же юридически обоснована последовательность частей вопроса, выставляемого на референдум?

Зная о том, что Александром Григорьевичем владеет одна, но всепоглощающая страсть (как в плане политического долголетия переплюнуть Папу Римского), нетрудно понять, почему тема персонального допуска к выборам оказалась на первом месте. Однако представим себе ситуацию: в ходе народного голосования первый сюжет набрал большинство голосов. А по второму (изменение Конституции) народ не смог "правильно" сориентироваться, то есть по итогам референдума на первую часть вопроса люди ответили — "да", на вторую — "нет". В результате мы получаем патовую ситуацию. Что делать дальше, куда идти, к кому обращаться за судом?

Говоря образно, в указе №431 Александр Лукашенко поставил телегу впереди лошади. И в этом одно из проявлений юридической безосновательности данного документа. Вначале белорусский начальник как бы говорит: граждане, разрешите мне нарушить Конституцию. А уж затем предлагает: давайте ее изменим. Получается перевернутая логика. Хранитель закона добивается от народа права на нарушение Конституции (ведь ст.81 ч.1 еще не отменена). Логически более или менее корректно вынести на плебисцит персональный вопрос можно только после того, как будет отменена конституционная норма, ограничивающая пребывание на посту президента двумя сроками.

Следующая проблема: как должны считаться голоса? В законе сказано: по изменению Конституции на референдуме требуется набрать большинство от списка. Но не тех, кто явился к урнам, а большинство от списка избирателей. Наше право предусматривает два вида большинства: квалифицированное и простое. Спрашивается: какое большинство здесь надо иметь в виду? Необходимо, поскольку на карту поставлена судьба Конституции страны, очень серьезное юридическое толкование. Как минимум в дело должен вступать Конституционный суд. Одно дело — для положительного решения набрать пятьдесят процентов плюс один голос. Другое — семьдесят пять процентов.

Потом, как быть со статьей 117 Избирательного кодекса? Согласно этой статье, в указе обязательно должно содержаться указание на юридическую силу решения референдума. Третий пункт указа №431 гласит: *"Решение, принятое республиканским референдумом, вступает в силу через 10 дней после его официального опубликования, имеет обязательную силу и является неотъемлемой частью Конституции Республики Беларусь".* Если этот пункт относить к решению по второй части вопроса на референдуме, то куда ни шло. Но если его применить к первой части, то получается полнейшая юридическая несуразица и глупость, поскольку выходит, что персональное участие г-на Лукашенко в президентских выборах закрепляется в Конституции. Приходится только удивляться, что за юристы окружают хозяина "Красного дома".


*(Окончание на 2-й стр.)*


**ПАДРАБЯЗНАСЦІ**

## Міхаіл Марыніч вывучае англійскую мову



*"Міхаіл Марыніч па-ранейшаму знаходзіцца ў СІЗА КДБ,* — гаворыць адвакат палітыка **Вера Страмкоўская.** — *Ніякія следчыя дзеянні з ім не праводзяцца. Хаця тэрмін утрымання пад вартай яму працягнулі менавіта пад маркай неабходнасці правядзення следчых дзеянняў. Той следчы, які ўзначаліў следчую групу і вынес пастанову аб працягу тэрміну зняволення, сышоў у адпачынак..."*

Паводле слоў адваката, Міхаіл Афанасьевіч у СІЗА КДБ шмат чытае і па падручніку вывучае англійскую мову. Газеты яму зараз не прыносяць.

*"Падпіску не паспелі працягнуць, бо чакалі, што 26 жніўня яго нарэшце выпусцяць,* — гаворыць Вера Страмкоўская. — *Потым на адрас СІЗА для Марыніча выпісалі некаторыя газеты ў адным з прыватных агенцтваў, аднак іх яму ўсё роўна не дастаўляюць: маўляў, не дазволена інструкцыяй. Таму я пры кожнай сустрэчы распавядаю Міхаілу Афанасьевічу пра апошнія навіны".*

Па назіраннях Страмкоўскай, апошнім часам Міхаіл Марыніч стаў выглядаць значна горш.

*"Ён заўважна схуднеў і пабляднеў"*, — гаворыць Вера Валянцінаўна.

Нагадаем, што Міхаіл Марыніч быў затрыманы 26 красавіка. Адразу пасля затрымання ў адносінах да яго ўзбудзілі крымінальную справу па двух артыкулах: ст.377 ч.2 *(выкраданне альбо знішчэнне афіцыйных дакументаў альбо пячаткаў асаблівай важнасці)* і ст.295 ч.2 *(незаконны выраб, набыццё і захаванне агнястрэльнай зброі ці боепрыпасаў).* Аднак афіцыйнае абвінавачванне Марынічу прад'яўлена толькі за незаконнае захаванне зброі.

Напрыканцы жніўня ў дачыненні да Марыніча ўзбуджана новая крымінальная справа — па частцы 4 артыкула 210 Крымінальнага кодэкса Беларусі, які прадугледжвае адказнасць за крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі. Новая справа ўзбуджана па прыкметах крадзяжу аргтэхнікі ў асацыяцыі "Деловая инициатива".

Марыніч усё адмаўляе.

Праваахоўныя органы настойваюць на чыста крымінальным характары абвінавачвання. Сам Міхаіл Марыніч і члены яго-най сям'і перакананы, што крымінальная справа абумоўлена палітычнымі прычынамі.

Шматлікія хадайніцтвы адвакатаў Марыніча з просьбамі неадкладна вызваліць яго з-за кратаў у сувязі з цяжкім станам здароўя адхілены.

**Марына КОКТЫШ.**

**ДОСЛОВНО**

## Владимир Путин — о важности смены власти

«Смена власти — всегда проверка конституционного строя, проверка его на прочность. Да, у нас это не первая проверка, очевидно, не последняя, но это испытание, этот рубеж в нашей жизни мы прошли достойно. Мы доказали, что Россия становится современным демократическим государством. Мирная преемственность власти — это важнейший элемент политической стабильности, о которой мы с вами мечтали, к которой стремились, которой добивались».

*(Из выступления В.В.Путина на церемонии вступления в должность Президента Российской Федерации 7 мая 2000 года.)*

# Не только почтим память исчезнувших людей, но и еще раз продемонстрируем власти, что белорусы в своем намерении защищать правду, справедливость и истинные итоги референдума готовы идти до победного конца

**16 сентября исполнится пять лет со дня исчезновения Виктора ГОНЧАРА и Анатолия КРАСОВСКОГО.**

ЖАДАЕМ ВЕДАЦЬ ПРАЎДУ!
Віктар ГАНЧАР
Анатоль КРАСОЎСКІ
5 год з дня знікнення
16 верасня
Кастрычніцкая плошча
18:00
жывы ланцуг неабыякавых людзей

За эти годы власть ничего не сделала для раскрытия этих преступлений — наоборот, создалось впечатление, что она все эти годы старательно и цинично заметала следы.

Все пять лет семьи исчезнувших людей живут с одной мыслью: узнают ли они правду о том, что произошло с их близкими?

Все пять лет неравнодушные граждане в разных уголках Беларуси выходят на улицы своих городов с портретами исчезнувших людей и задают безмолвный вопрос власти. И пока не будут найдены **Виктор ГОНЧАР, Анатолий КРАСОВСКИЙ, Юрий ЗАХАРЕНКО, Дмитрий ЗАВАДСКИЙ**, эти акции будут продолжаться. И это не просто политический вопрос. Это вопрос морально-нравственный: необходимо напомнить заказчикам и исполнителям, что время ответственности за их преступления уже наступает.

Сегодня в Беларуси сторонников Лукашенко не более 25%. Это данные, предоставленные Институтом независимых социологических исследований. Понимая это, власть, на которой лежит ответственность за исчезновения людей, может пойти на все, чтобы сфальсифицировать итоги предстоящего референдума.

Накануне референдума 1996 года глава Центризбиркома **Виктор ГОНЧАР,** столкнувшись с массовыми нарушениями избирательного законодательства, заявил, что не признает результатов голосования. И тут же был отстранен от занимаемой должности указом Лукашенко. Оружием власти уже тогда становились угрозы, направленные на подавление инакомыслия в стране. Но депутата Верховного Совета 13-го созыва **Виктора ГОНЧАРА** это не сломило. Он одним из первых поставил свою подпись за импичмент президенту, стал главой Комиссии по изучению нарушений Конституции президентом.

Мужество, дерзость, большая сила воли, жажда справедливости — эти черты характера **Виктора ГОНЧАРА** сделали его одним из самых серьезных противников Александра Лукашенко.

**Виктор ГОНЧАР** понимал, что только консолидированной силой можно победить режим.

Сегодня все, кто подписался под Декларацией о единстве демократических сил Беларуси, до конца осознали это.

И поэтому 16 сентября мы не только почтим память исчезнувших людей, но и еще раз продемонстрируем власти, что белорусы в своем намерении защищать правду, справедливость и истинные итоги референдума готовы идти до победного конца.

**Екатерина ТКАЧЕНКО,**
**член Объединенной гражданской партии.**

**ЧУЛІ?**

## Беларускіх фермераў запрашаюць за акіян

Дзярждэпартамент ЗША і Пасольства ЗША ў Мінску ўпершыню аб'явілі конкурс на ўдзел у праграмах прафесійнай стажыроўкі для работнікаў сельскай гаспадаркі і прадстаўнікоў сферы малога бізнесу.

Праграма "Community Connections Agriculture" прызначана для ўладальнікаў, кіраўнікоў прыватных аграфірм і фермерскіх гаспадарак Беларусі, якія зацікаўлены ў вывучэнні сучасных тэхналогій вырошчвання і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі. Падчас праграмы ўдзельнікі атрымаюць магчымасць азнаёміцца з працай амерыканскіх агракомплексаў і асаблівасцямі вядзення бізнесу ў галіне сельскай гаспадаркі. Апошні тэрмін падачы заявак на ўдзел у праграме — 12 кастрычніка 2004 года.

Абедзве праграмы разлічаны на чатыры тыдні. Усе расходы, звязаныя з праходжаннем стажыроўкі, нясе амерыканскі бок. Веданне англійскай мовы не з'яўляецца абавязковай умовай удзелу ў праграмах.

Дадатковую інфармацыю і анкеты для ўдзелу ў конкурсе можна атрымаць у аддзеле інфармацыі, адукацыі і культуры Пасольства ЗША ў Беларусі па адрасе: вул. Герцэна, 2а, тэлефон: **(017) 217-04-81.**

**Марына РАХЛЕЙ.**

## Velcom абяцае каляровыя адлюстраванні

СП ТАА "Мабільная лічбавая сувязь" (гандлёвая марка Velcom) аб'явіла аб заключэнні двух важных кантрактаў з вядучымі пастаўшчыкамі абсталявання для GSM-сетак: канцэрнамі "Siemens" і "Ericsson".

Паводле слоў старшыні праўлення СП ТАА "МЛС" Іда Самаві, у рамках супрацоўніцтва з гэтымі кампаніямі будуць пастаўлены і ўстаноўлены 334 новыя базавыя станцыі (2542 прыёмаперадатчыкі) для працы ў дыяпазоне GSM 900 і 1800. Будзе таксама пастаўлена камутацыйнае і дадатковае абсталяванне, якое дазволіць абанентам перасылаць унутры сеткі каляровыя адлюстраванні і іншыя мультымедыйныя паведамленні.

"Такім чынам, — заявіў І.Самаві, — сума ўкладанняў у будаўніцтва і развіццё сеткі Velcom у 2004 годзе перавысіць 70 мільёнаў долараў".

У СП ТАА "МЛС" чакаюць, што ў кастрычніку абаненцкая база Velcom будзе налічваць 1 мільён абанентаў.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

**МОНИТОРИНГ**

## Независимые наблюдатели отмечают массовые нарушения при проведении парламентских выборов

Назначение республиканского референдума "в обстановке угроз, давления, применения двойных стандартов и отсутствия у демократической общественности представителей в избирательных комиссиях, проводящих подсчет голосов, является нарушением международных стандартов свободных и справедливых выборов". Об этом говорится в отчете о ходе парламентских выборов в Беларуси с 20 августа по 9 сентября, подготовленном гражданской инициативой "Партнерство".

По мнению независимых наблюдателей, проходившая в отчетный период процедура выдвижения кандидатов в депутаты парламента путем сбора подписей и от трудовых коллективов "сопровождалась многочисленными фактами давления, угроз, шантажа, применения "двойных стандартов", использования административного ресурса и иными нарушениями законодательства". Кроме того, указывается в отчете, "с нарушением принципов справедливости и равенства" были сформированы участковые избирательные комиссии. Представители оппозиционных политических партий получили в них всего 0,2 процента мест.

Избирательная кампания, отмечает "Партнерство", "проходит с нарушениями принципов открытости и гласности". "Многим независимым наблюдателям создаются необоснованные препятствия в осуществлении их деятельности, независимая пресса подвергается преследованиям, ограничивается право граждан на свободное получение и распространение информации", — указывается в отчете. Документ содержит перечень конкретных фактов, подтверждающих выводы независимых наблюдателей.

## Потенциальные кандидаты от ОГП собрали более 100.000 подписей в свою поддержку

Потенциальные кандидаты от ОГП и их инициативные группы собрали более 100.000 подписей в свою поддержку. Об этом сообщила пресс-служба Объединенной гражданской партии. "Это свидетельствует о том, что у нашей партии есть огромный потенциал", — отметил, комментируя данный факт, лидер ОГП Анатолий Лебедько. По его словам, активисты партии, собирая подписи, не скрывали своей партийной принадлежности. Результаты сбора подписей во время избирательной кампании 2004 года свидетельствуют не только о поддержке оппозиции в обществе, но и о готовности партии серьезным образом участвовать в кампании по выборам президента в 2006 году, говорится в сообщении пресс-службы ОГП.

**БелаПАН.**

Народная Воля
15 ВЕРАСНЯ 2004 г.

**ПУЛЬС**

## З ЕГУ ў БДУ

*Рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта Васіль Стражаў падпісаў 13 верасня загад аб пераводзе ў БДУ былых студэнтаў Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта (ЕГУ), якія падалі заявы і заключылі дагавор на вучобу ў Белдзяржуніверсітэце на платнай аснове.*

Як паведаміла БелаПАН кіраўнік прэс-службы БДУ Вольга Шчадрына, у галоўную ВНУ краіны залічаны 515 былых студэнтаў ЕГУ.

Паводле слоў Вольгі Шчадрыной, у адпаведнасці з загадам рэктара БДУ выкананы ўсе ўмовы аплаты вучобы, якія былі ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце, у тым ліку для студэнтаў, якія карысталіся правам на бясплатнае або льготнае навучанне.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Супермаркет «Веста»

*Прыкметнай падзеяй апошняга часу на віцебскім гандлёвым "фронце" стала чарговая перамога адкрытага акцыянернага таварыства "Веста" на чале з вопытным Рэйманам Веніямінавым.*

Спадар Веніямінаў на зайздрасць канкурэнтам штогод адкрывае новыя або рэканструіруе старыя магазіны "Весты".

Днямі ў Віцебску, на вуліцы Чкалава, урачыста адкрыўся самы буйны ў абласным цэнтры харчовы магазін №142, на абнаўленне, аздабленне і абсталяванне якога да ўзроўню еўрапейскага супермаркета з гандлёвай залай у 2 тысячы "квадратаў" і камп'ютэрнай сістэмай абслугоўвання выдаткавана каля 4 мільярдаў рублёў.

Няма сумнення, што кіраўніцтва "Весты" спадзяецца на хуткае пакрыццё выдаткаў, а "бацькі" вобласці і горада, якія ўдзельнічалі ў цырымоніі адкрыцця палепшанага супермаркета, упэўнены, што павелічэнне даходаў гандляроў станоўча адаб'ецца на мясцовым бюджэце, які, уласна кажучы, і дыхае за кошт падаткаў з гандлю.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Чакаецца дыягностыка інвестыцыйнага клімату ў Беларусі

У найбліжэйшы час Кансультацыйная служба даследавання замежных інвестараў (КСДЗІ) — падраздзяленне Сусветнага банка, якое аказвае падтрымку краінам, што развіваюцца, па прыцягненні прамых замежных інвестыцый, — прыступіць да падрыхтоўкі даследавання, прысвечанага клімату для замежных інвестараў у Беларусі.

Як паведаміў кіраўнік Прадстаўніцтва Сусветнага банка (СБ) у Беларусі Вадзім Варонін, дыягностыка інвестыцыйнага клімату, як правіла, з'яўляецца самастойным даследаваннем, якое часткова заснавана на абследаванні замежных інвестараў, якія ўжо працуюць у канкрэтнай краіне. Гэтая паслуга карыстаецца вялікай папулярнасцю ў краін — членаў СБ. Улічваючы сітуацыю з прыцягненнем інвестыцый у беларускую эканоміку і актуальнасць гэтага пытання для ўрада краіны, даследаванне па інвестыцыйным клімаце ў Беларусі вырашана правесці паралельна з падрыхтоўкай краінавага мемарандума, у якім падрабязна разглядаюцца праблемы эканамічнага развіцця краіны і даюцца рэкамендацыі па паляпшэнні сітуацыі ў канкрэтных кірунках.

"Далей усё будзе залежаць ад урада Беларусі, — сказаў В.Варонін. — Задача не ў тым, каб атрымаць станоўчую дыягностыку, звычайна задаволеных інвестараў не бывае. Пытанне ў тым, наколькі сур'ёзна ўрад будзе ўспрымаць высновы нашых экспертаў, ці гатовы ён будзе да актыўных крокаў па паляпшэнні інвестыцыйнай прыцягальнасці краіны".

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Гран-пры за лялькі — не цацка

Вышэйшую ўзнагароду Міжнароднага фестывалю прывёз са сталіцы Харватыі Заграба ў Віцебск беларускі тэатр "Лялька".

Спектакль "Загубленая душа, або Пакаранне грэшніка" паводле п'есы мінскага драматурга Уладзіміра Грыўцова, які ў сваю чаргу натхніўся творчасцю класіка беларускай літаратуры Яна Баршчэўскага, дазволіў віцебскім артыстам пад кіраўніцтвам рэжысёра Алега Жугжды перамагчы больш за 20 тэатраў-канкурсантаў з краін Еўропы і Амерыкі.

Побач з адмысловым майстэрствам артыстаў журы высока ацаніла працу сцэнографа Алеся Сідарава і тое, што пастаноўка ажыццёўлена ў адпаведнасці са стылем езуіцкага тэатра, які існаваў у Беларусі з XVII стагоддзя.

Цікава, што згаданы спектакль прынёс тэатру "Лялька" ўжо цэлы шэраг прызоў — Гран-пры фестывалю ў югаслаўскай Субоціцы (1999 год), прыз за высокую эстэтыку на фестывалі "Лялька-94" ва ўкраінскім Унігарадзе ды іншыя пачэсныя ўзнагароды.

На прэс-канферэнцыі з нагоды перамогі беларусаў у Заграбе мастацкі кіраўнік "Лялькі" Віктар Клімчук сказаў, што новы сезон адкрыецца спектаклем паводле беларускага фальклору "Піліпка і ведзьма".

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Бог ёй суддзя!

*Крымінальная справа па факце самазабойства 2 верасня ў раёне плошчы Бангалор у Мінску 52-гадовай мічанкі ўзбуджацца не будзе. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў пракуратуры Савецкага раёна сталіцы, дзе высвятляліся ўсе акалічнасці таго, што здарылася.*

Нагадаем, што раніцай 2 верасня ў парку Дружбы народаў жанчына, якая жыла на вуліцы Карастаянавай, расклала вакол сябе царкоўныя кнігі і абразы, выліла на адзенне вадкі растваральнік і падпаліла сябе. Яшчэ да прыбыцця ратавальнікаў і машын "хуткай медыцынскай дапамогі" яна памерла.

Паводле слоў суразмоўцы агенцтва, адмаўленне ва ўзбуджэнні крымінальнай справы звязана з тым, што ў тым, што здарылася, няма саставу злачынства — няма крыміналу. У пракуратуры мяркуюць, што хутчэй за ўсё самазабойства адбылося на рэлігійнай аснове. Ніякіх іншых тлумачэнняў па справе там даць не змаглі. Выключэннем з'яўляецца толькі інфармацыя аб тым, што, паводле сведчання сваякоў загінуўшай, апошнім часам перад учыненнем суіцыду жанчына размаўляла ў сне.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Па-ранейшаму гарым!

*74-гадовы жыхар вёскі Хатынічы Ганцавіцкага раёна загінуў падчас пажару, які адбыўся ў яго драўляным доме ў ноч на 14 верасня. Ён стаў сямідзесятай па ліку ахвярай агню ў Брэсцкай вобласці з пачатку гэтага года.*

Менавіта людзі старэйшага ўзросту лічацца найбольш уразлівай у пажарных адносінах катэгорыяй насельніцтва, што становіцца асабліва прыкметна з пачаткам ацяпляльнага сезона. У сувязі з гэтым сёлета ў дамах адзінокіх людзей і пенсіянераў праводзіцца актыўная работа па ўстаноўцы індывідуальных пажарных апавяшчальнікаў. На працягу года гэтымі прыборамі ў Брэсцкай вобласці будуць аснашчаны 10 тысяч дамоў і кватэр, што належаць у асноўным пенсіянерам.

Паводле звестак абласнога ўпраўлення МНС, з пачатку года ў вобласці зафіксавана 1174 пажары.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

# Игры без правил,

## или О том, куда приведет новый порядок вступительных экзаменов в вузы




В нынешнем году, поступая в высшие учебные заведения Беларуси, молодые люди вместо обычных устных экзаменов писали тесты. За последние месяцы книжный рынок буквально наводнили многочисленные пособия по подготовке к тестам. Их авторы ставили перед собой вполне благородную задачу: помочь выпускникам школ проверить свои знания и подготовиться к вступительным экзаменам. В аннотациях к пособиям говорится, что они полностью соответствуют требованиям программы того или иного вступительного экзамена. Особенно много было издано пособий по предмету "Человек. Общество, Государство", авторами которых являются Я.С.Яскевич, Д.А.Мигун, В.И.Миськевич, И.И.Таркан и другие. Если судить по научным званиям, составителей этих пособий дилетантами не назовешь.

Например, пособие И.И.Таркана "Человек. Общество. Государство" было опубликовано под редакцией доктора философских наук Я.С.Яскевич. Этим и объясняется столь высокий коммерческий спрос у выпускников школ этих вовсе не дешевых (в смысле цены) пособий. Абитуриенты, сдававшие экзамены в Минский государственный лингвистический университет, не могли допустить и мысли о том, что подготовка и их ответы по этим пособиям здесь будут ставиться под сомнение.

Каждый абитуриент вправе рассчитывать на справедливую оценку своих знаний. Так было по крайней мере на устных экзаменах, в процессе которых преподаватель оценивал знания поступающего по предмету, его эрудицию и логическое мышление. В этом году чиновники из Министерства образования решили поэкспериментировать над учащимися в очередной раз. Нет ничего более безответственного, чем проводить эксперименты над детьми и преподносить их в качестве реформы образования.

Чем объяснить, что около сотни абитуриентов факультета английского языка Минского государственного лингвистического университета подали апелляцию на тест по предмету "Человек. Общество. Государство", который состоялся 18.07.2004 года? Неужели такое огромное количество несогласных с оценкой абитуриентов не свидетельствует о неординарности события? Ведь и составители тестов могут ошибаться! Быть может, у обратившихся в апелляционную комиссию абитуриентов были веские основания? Тогда вина за несовершенство разработанных тестов ложится на председателя предметной комиссии? Ведь оспаривают оценку не аутсайдеры, а уверенные в своих знаниях люди. Очевидно, председателя апелляционной комиссии этот вопрос заботил в последнюю очередь. Создалось впечатление, что организаторы решили обставить заседание апелляционной комиссии так, чтобы у абитуриентов больше не возникало никаких иллюзий относительно возможности отстаивать свою правоту в стенах вуза. Интересная логика, не правда ли? Неужели апелляционная комиссия создавалась для того, чтобы формально подтвердить отметки, а не выслушивать аргументы абитуриентов. А ведь для многих из них решался жизненно важный вопрос. Для многих абитуриентов этот вопрос, по-видимому, был за них решен руководством университета.

Верхом неуважения к абитуриентам и родителям со стороны руководства вуза стало изменение времени проведения заседания апелляционной комиссии. Более двух часов собравшиеся абитуриенты и их родители были вынуждены томиться в тягостном ожидании. Это еще можно было бы хоть как-то объяснить, если бы назначенные "эксперты" были настроены на доброжелательный разговор, а не на психологическое давление и дезориентацию абитуриентов. Было заявлено, что претензии собравшихся относительно правильности определений и ответов, которые предлагают пособия, рассматриваться комиссией не будут.

Образцовым пособием для составителей тестов в МГЛУ является четырехкнижие под редакцией Ю.А.Харина, определения и формулировки из которого требовалось приводить дословно. Хотелось бы спросить у руководителей Министерства образования, насколько они разделяют позицию "экспертов" МГЛУ по тестам? Последние превратились в настоящий кроссворд, в головоломку, где от учащихся требовали не глубоких знаний предмета, а механического заучивания цитат и определений из учебника. Баллы снимали за каждое пропущенное в определении слово, за каждый правильный ответ, но сформулированный своими словами.

Неужели кафедра общественных наук МГЛУ превратилась в гнездо средневековых схоластов? Разве "философия" не переводится с греческого как наука о мудрости? Ведь общественные науки требуют развитого абстрактного мышления, а не заучивания цитат и формулировок из учебников, пользующихся к тому же невысокой репутацией у школьных педагогов. Неужели об этом не знают в Министерстве образования республики?

Физически за один вечер объективно разобраться с таким наплывом абитуриентов было невозможно. Некоторые из них, вняв увещеваниям одного из членов апелляционной комиссии о бесполезности доказывать здесь свою правоту, разошлись. Зато до конца уверенные в обоснованности своих претензий абитуриенты получили за свое упрямство сполна. Они смогли убедиться в том, что преподаватель всегда "прав", даже если утверждает, что дважды два — шесть. По-видимому, введение в состав апелляционной комиссии около полутора десятков человек было предпринято для того, чтобы придать вес решению столь внушительного коллегиального органа. Создавалось впечатление, что эксперты, видя огорчение детей и их родителей, получали явное удовольствие. В коридоре рыдающие абитуриенты рассказывали своим сверстникам о том, что комиссия признавала лишь те претензии, которые не влияли на поставленную оценку. Ну а "эксперты"? Для них признать правоту абитуриентов, видимо, означало расписаться в своей научной несостоятельности.

Думаю, что у многих родителей после такого одиозного спектакля пропало всякое желание переступать порог этого вуза. Ну а абитуриенты? Они повзрослели на глазах, поняв, что окружающий их мир далеко не такой, как его изображают авторы зачитанных ими до дыр учебников "ЧОГ", что члены комиссии собрались здесь вовсе не для того, чтобы выслушать и оценить их знания.

Куда еще приведет нас подобная реформа высшей школы? Неужели в Министерстве образования ответственные чиновники не задумываются над тем, какой вред они наносят своими экспериментами детям? Заглянул ли хоть один из них в школьный учебник "Человек. Общество. Государство"? Поинтересовался ли хоть кто-нибудь из руководителей Министерства образования, что представляет собой тест? Неужели его суть заключается в решении ребусов, заучивании детьми весьма спорных и сомнительных формулировок и косноязычных определений. Уверен, что если бы на задания теста отвечал кто-нибудь из ответственных чиновников Министерства образования или составитель тестов из другого вуза, результаты тестов оказались бы для них более печальными, чем для абитуриента. Так чего же вы требуете от выпускников школ? Знаний или игры в крестики-нолики?

**Владимир ТАРАСОВ,**
**кандидат философских наук.**

*Минск.*

**Фото photo.bymedia.net**

**ЧОРНЫ ПІЯР**

# Роздум аб дыктатуры — за кадрам?

*Канал АНТ у рэкламным роліку цытуе карэспандэнта Радыё Свабода Юрыя Дракахруста. Аднак словы журналіста падаюцца ў вырваным з кантэксту выглядзе. За кадрам застаўся роздум карэспандэнта аб дыктатуры.*

З 28 верасня АНТ распачынае паказ 12-серыйнай дакументальнай стужкі пра найноўшую гісторыю Беларусі. Выхад фільма папярэджвае рэклама. У адным з ролікаў сваё меркаванне пра першыя гады беларускай незалежнасці выказвае карэспандэнт Радыё Свабода **Юрый Дракахруст**. Вось яго словы, якія падае АНТ:

*"Адно, дарэчы, з першых рашэнняў Лукашэнкі было — прызнанне беларускага рубля беларускім рублём, кошкі — кошкай. Вельмі правільным, хаця і балючым і непапулярным крокам была лібералізацыя цэн на хлеб у 1994 годзе. Праводзіўся яшчэ шэраг рэформ, пра што сведчыла тады і шчыльнае супрацоўніцтва з МВФ.*

*Вельмі такой "дзіўнай" з'явай, асабліва на фоне дзікай інфляцыі пачатку 90-х гадоў, была стабільнасць беларускага рубля ў 1995 годзе. Курс не мяняўся год. І гэта — шчыра скажам — заслуга не толькі спадара Станіслава Багданкевіча, тагачаснага старшыні Нацыянальнага банка, а і Лукашэнкі таксама".*

На гэтым інтэрв'ю Дракахруста спынена. Але, як высветлілася, цытата мае працяг. І ўрэшце не зразумела, ці мае права АНТ выкарыстоўваць яе ў такім выглядзе і ўвогуле выкарыстоўваць гэты запіс.

Справа ў тым, што ацэнку першым гадам кіравання Лукашэнкі Юрый Дракахруст даў у сваім інтэрв'ю для фільма вядомага беларускага рэжысёра **Віктара Шавялевіча** вясною гэтага года. Разам з Дракахрустам рэжысёр запрасіў прыняць удзел у фільме **Зянона Пазьняка** і **Сяргея Навумчыка**. Палітыкам было сказана, што гэта будзе дакументальны фільм пра адраджэнне беларускай дзяржаўнасці. *"Пазьняк сказаў, што ведае Шавялевіча як прыстойнага рэжысёра, які не зробіць подласці і можна здымацца",* — узгадвае Сяргей Навумчык. Здымкі па дамоўленасці з Шавялевічам праводзіла ў Празе прыватная чэшская кампанія.

*— Калі запісалі інтэрв'ю Дракахруста, а таксама мае ўспаміны,* — расказвае Сяргей Навумчык, *— у Мінску раптоўна памёр Шавялевіч. І праз некалькі дзён мне пазванілі з АНТ наконт інтэрв'ю з Пазьняком. Я спытаў: "А хто будзе здымаць?" Мне сказалі, што да Пазьняка паедзе Юрый Казіятка. Сустракацца з журналістам, які ганьбіў Быкава, Пазьняк адмовіўся. І я тады сказаў, што калі б ведаў, што да фільма мае нейкае дачыненне Казіятка, то таксама не здымаўся б.*

*Я не ведаю, у якім выглядзе гэты фільм з'явіцца на АНТ. Але можна меркаваць, што маіх ўспамінаў пра Дэкларацыю аб суверэнітэце, пра збіццё дэпутатаў Партыі БНФ у зале парламента, пра нашу з Пазьняком вымушаную эміграцыю на экране не будзе. Гэта застанецца хіба што ў архіве для будучых гісторыкаў".*

Дарэчы, што тычыцца слоў Юрыя Дракахруста, то ўчора ў эфіры Радыё Свабода прагучаў поўны запіс інтэрв'ю журналіста. Пасля слоў, якія круціць АНТ, журналіст казаў:

*"Але ўжо ў лістападзе 1994 годзе адбылося знакамітае і славутае "адкручванне цэн". Калі Лукашэнка сказаў, што цэны там нешта ўзняліся няправільна, і я патрабую іх адкруціць. Дарэчы, тады ж рэйтынг Лукашэнкі ўпаў вельмі нізка, і магчыма гэта было адно з самых нізкіх значэнняў гэтага рэйтынгу за час ягонага кіравання.*

*Ведаеце, я б тут правёў такую аналогію. Мы, беларуская служба Радыё Свабода, у мінулым годзе размаўлялі з Лехам Валенсам. І вось мы яго спыталі: "Спадар Валенса, вось вы ў свой час былі чалавекам-легендай, надзеяй Польшчы. Але на апошніх прэзідэнцкіх выбарах вы набралі 1 працэнт галасоў. Чаму?" Ведаеце, што ён адказаў? Ён сказаў: "Тады, у 1989 годзе, я мог стаць дыктатарам. Але я не захацеў. Я спаліў сябе дзеля свабоды і дзеля дэмакратыі".*

*Лех Валенса зрабіў такі выбар. Аляксандр Лукашэнка зрабіў іншы выбар".*

Цікава, ці прагучаць гэтыя словы з экрана АНТ? Чакаць засталося нядоўга...

**Марыя ЭЙСМАНТ.**



**Юрый Дракахруст:** *Ці пачуюць тэлегледачы мае словы цалкам?*

# Зачистка Конституции...

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

## Разрешите мне...

Смотрим текст указа дальше. Этот документ должен содержать не только формулировку вопроса, но и проект его решения. Потому что в дальнейшем именно проект решения будет иметь силу нормативного акта. А что есть в указе?

Совершенно очевидно, что в указе №431 необходим проект решения по каждой части вопроса. С юридической точки зрения это непреложно. И этот проект решения должен соответствовать определениям закона "О нормативных правовых актах". Прежде всего статье 1, где сказано: "Нормативный правовой акт — официальный документ, принятый путем референдума, содержащий общеобязательные правила поведения, рассчитанные на неопределенный круг лиц и неоднократное применение".

Отсюда следует (если говорить о первой части вопроса, выносимого на референдум), что проект решения должен касаться неопределенного круга лиц, а не одной персоны, которая захотела остаться в кресле президента вопреки Конституции. Формулировка "разрешите мне..." юридически несостоятельна и безграмотна. Она решительным образом противоречит даже тем правовым актам, которые изданы самим Александром Лукашенко. В его указе №359 от 11. 08. 2003 г. "Правила подготовки проектов нормативных актов" в пункте 43 сказано: "Наряду с нормативными предписаниями не формулируются предписания однократного действия, индивидуальные правила". Эта же, абсолютно правильная, юридическая норма развивается в пункте 46, где говорится: "При формулировании текста проекта акта следует использовать нормативные предписания обезличенного характера, не относящиеся к конкретной ситуации, к конкретным организациям и гражданам". Получается, что, издав указ №431, Александр Лукашенко постановкой персонального вопроса нарушил им же утвержденные правила.

Попытки же некоторых чиновников оправдать появление этого вопроса желанием главы государства выяснить некий психологический климат в обществе вообще не выдерживают критики. Господа, для этого проводите социологические опросы, а не государственные референдумы. Через социологию формулируйте и выясняйте все, что угодно...

Итак, с точки зрения права первый вопрос не представляет собой правовой нормы. Естественно, он не может иметь юридической силы, о которой сказано в п. 3 указа №431. По сути это всего лишь частная просьба гражданина Лукашенко выдать ему лицензию на то, чтобы изменить Конституцию.

Вопрос *"разрешаете ли Вы первому Президенту РБ Лукашенко А.Г. участвовать... в выборах Президента..."*, если его перефразировать в образном ключе, означает: дайте мне право пойти на красный свет. При всем том, что остальные граждане будут по-прежнему переходить улицу только на зеленый сигнал светофора.

## Вопреки собственным «правилам»

Помимо того, что такая постановка волнующей Александра Лукашенко проблемы юридически некорректна, не имеет юридической нагрузки, она еще перечеркивает вторую юридическую норму. Александр Григорьевич, по-видимому, полагает, что, получив положительный ответ на первую часть вопроса референдума, на результаты голосования по второй части можно не обращать внимания.

Хотя на самом деле вопрос должен быть один (о конституционной поправке, если ее принятие возможно через референдум). Потом, примерно через месяц, если новая редакция статьи 81 пройдет, Александр Лукашенко мог бы спросить через референдум: граждане, вы отменили ограничение (одно лицо не может избираться на пост президента более двух раз), поэтому разрешите баллотироваться в третий раз. Хотя в этом тогда уже не будет никакой необходимости.

Надо сказать еще раз и жестче. Тема персональных политических интересов и намерений, как она заявлена в первой части вопроса, который выносится на референдум, вообще не должна фигурировать на референдуме. И с этической, и с юридической точек зрения.

Что касается части вопроса, направленной на изменение ст.81 Конституции, то опять же его формулировка (редакция) нарушает "Правила подготовки проектов нормативных актов" (указ №359 от 11. 08. 2003 г.). Александр Лукашенко предлагает народу новую редакцию ч.1 ст.81. Но в соответствии с п.97 Правил "изменение оформляется в новую редакцию, если количество внесенных в действующую редакцию изменений составляет более половины текста структурного элемента акта". В данном же случае из ч.1 ст.81 Конституции исключается только одно предложение (о двух сроках избрания), которое, и это очевидно, составляет менее половины текста части 1 ст.81. С точки зрения соблюдения законодательной техники конституционная поправка в проекте решения референдума должна быть изложена следующим образом: "Исключить из ч.1 ст.81 Конституции последнее предложение: "Одно и то же лицо не может быть Президентом более двух сроков". А так получается, что народу предлагается проголосовать вновь за им же (народом) принятую ранее формулировку о пятилетнем сроке и всенародном тайном голосовании. Расчет прост: большинство народа не в курсе существования второго предложения в действующей редакции ч.1 ст.81 Конституции, да ему и незачем размышлять на тему его сохранения или отмены.

Возбуждение вопроса о референдуме гражданами, или Палатой представителей, или президентом допускается только в определенном порядке и в том случае, когда надо изменить статью Конституции (и то не любую).

С точки зрения законодательства, кто имеет право инициировать такого рода вторжение в Основной закон? В Конституции записано, что через референдум корректируются ее 1, 2, 4 и 8 разделы (помимо референдума Палата представителей не может вторгаться в эти разделы и корректировать их). Но в то же время есть норма Избирательного кодекса, строящаяся на основе отсылочной нормы Конституции (ст. 78 "Перечень вопросов, которые не могут быть вынесены на референдум, определяется законом"). Статья 112 этого кодекса говорит о том, что все-таки есть перечень вопросов, которые не могут обсуждаться на референдуме (даже по разрешенным для референдума разделам). В частности, глава "Президент" может меняться через референдум. Однако, согласно упомянутому перечню вопросов, на референдум все же нельзя ставить вопросы об избрании и освобождении президента. Поэтому и вторая часть вопроса, инициируемого Александром Лукашенко на референдуме 17 октября, незаконна, является нарушением белорусского законодательства.

## Кто заплатит за удовольствие

Теперь представим на минуту, что аналогичная инициатива пришла в голову народу. В этом случае ему пришлось бы следовать требованиям Избирательного кодекса. Его статья 114 предписывает: "Вопрос (проект решения), предлагаемый на референдум инициативной группой граждан, направляется Центральной комиссией на заключение в Минюст, Прокуратуру, которые проверяют соответствие вопроса (проекта решения) требованиям законодательства".

Где такого рода заключение юристов относительно вопроса, который инициирует глава государства на референдуме 17 октября? В конце концов, если ты требуешь от своего народа законопослушания — покажи пример, ведь ты такой же субъект законодательной инициативы, как и все прочие граждане. Пока из уст официальных толкователей звучат лишь одни маловразумительные интервью вроде: "Да, мы полагаем...", "Да, у нас есть основания..." и т. д. и т. п.

Наконец, как ставится вопрос о материальных издержках, связанных с проведением объявленного референдума? Указ № 431 предписывает "Совету Министров Республики Беларусь обеспечить финансирование расходов на подготовку и проведение республиканского референдума в пределах средств, предусмотренных на выборы в Палату представителей Национального собрания Республики Беларусь третьего созыва, на основании сметы, представленной Центральной комиссией Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов".

Однако такая постановка вопроса явно противоречит законодательству. ЦИКу предписано составить смету расходов на проведение референдума в рамках строки расходов республиканского бюджета на выборы в Палату представителей. Между тем, в соответствии с Избирательным кодексом, Палата представителей при рассмотрении республиканского бюджета предусматривает отдельно средства на проведение выборов и референдума (п. 2, ст. 23), а ЦИК в рамках этой отдельной графы в законе о республиканском бюджете составляет смету. Автор указа должен был сослаться на конкретную графу финансирования республиканского референдума в законе "О бюджете 2004 г.", а не самовольно, без решения депутатов, отбирать эти деньги из средств, предназначенных для избирательной кампании в Палату представителей.

Таким образом, как показывает анализ правовой ситуации вокруг намеченного на 17 октября "совета с народом", мы сталкиваемся не только с цинизмом высшей белорусской власти. Несостоятельна сама юридическая сторона выносимого на всенародное обсуждение вопроса. Она выстроена с грубым нарушением действующего законодательства. В свою очередь это заранее дает основания сомневаться в том, что объявленный референдум правомочен, а полученные в ходе его проведения результаты будут иметь законную силу.

СПАРТЫЎНЫ ДЫЯЛОГ

*Рамуальд КЛІМ:*

# «Трэба менш языком малаціць, а больш рабіць справу»

*Вынікі выступлення беларускіх спартсменаў на Алімпійскіх гульнях у Афінах у дыялогу алімпійскага чэмпіёна 1964 года па кіданні молата* **Рамуальда КЛІМА** *і аглядальніка "Народнай волі"* **Алеся СІВАГА**

*Крыху больш за два тыдні прайшло з дня заканчэння афінскага алімпійскага фэсту. Час падсумаваць, абмеркаваць і прааналізаваць Алімпіяду быў. Ці задаволілі вынікі Алімпіяды?*

**Р.К.:** — Калі казаць пра арганізацыю Алімпіяды, розныя ўрачыстасці і сам размах, то мяне яны задаволілі... Але ж ёсць і другі бок медаля. У прыватнасці, балюча было канстатаваць вельмі няўдалае выступленне беларускіх кідальнікаў молата і дыска, штурхальнікаў ядра. Давайце паглядзім, колькі медалёў было заваявана ў нас у гэтых дысцыплінах чатыры гады таму, — мы мелі двух (!) алімпійскіх чэмпіёнаў (штурхальніцу ядра Яніну Карольчык, кідальніцу дыска Эліну Звераву) і трох бронзавых прызёраў. Зараз атрымалі толькі "серабро" і "бронзу". Ці ж гэта не паказчык?

**А.С.:** — Абсалютна згодзен з вамі. Самі Гульні ўразілі многіх, аднак, як кажуць, асобныя месцы выступлення беларускіх алімпійцаў маглі быць лепшымі. Хоць, на мой погляд, 15 медалёў — гэта нармальна. Гэта наша рэальнае месца ў алімпійскай сям'і. У нас даволі шмат атлетаў, якія знаходзяцца ў так званым спартыўным узросце, і зусім магчыма, што менавіта сёння беларуская зборная знаходзіцца ў стадыі амаладжэння. У любым выпадку пасля Афін трэба рабіць высновы, трэба нешта мяняць...

**Р.К.:** — Абавязкова! Я мяркую хаця б па выступленні на Гульнях нашых лёгкаатлетаў. Зусім жа відавочна, што і Федэрацыі лёгкай атлетыкі, і многім трэнерам проста неабходна перагледзець свае планы і сваю методыку падрыхтоўкі.

**А.С.:** — Методыку, можа, і трэба мяняць, аднак, напрыклад я, Рамуальд Іосіфавіч, пакуль не знаходжу для сябе адказу на пытанне: як сталася, што нашы традыцыйна моцныя кідальнікі і штурхальнікі, якія літаральна перад Алімпіядай паказвалі проста бліскучыя вынікі, на саміх Гульнях так удалала "пралялі"?

**Р.К.:** — А тут, як мне падаецца, усё проста. Вы ведаеце, дзе ў асноўным праходзяць спаборніцтвы спартсменаў у вышэйназваных відах спорту? За Мінскам, у "Стайках". Там жа падчас спаборніцтваў, прабачце, цішыня, як на могілках. Ніводнага балельшчыка. А зараз уявіце сабе, што той самы спартсмен выходзіць на 75-тысячны стадыён. Атлету ў самы рашаючы момант трэба сканцэнтравацца, а стадыён свішча, галёкае... Калі спартсмен падрыхтаваны да гэтага, то балельшчыкі для яго не праблема. Калі не — пішы пісьмы. У нашага кідальніка молата Вані Ціхана лепшы вынік у свеце ў гэтым сезоне — ён на чатыры метры перавышае алімпійскі паказчык, у яшчэ аднаго кідальніка — Ігара Астапковіча — таксама недзе мінус чатыры, у кідальніцы дыска Ірыны Ятчанка — каля трох. Чаму яны не паказалі ў Афінах свае лепшыя вынікі?

**А.С.:** — А штурхальніца ядра Надзея Астапчук? У кваліфікацыі лёгка займае першае месца, а ў фінале яе быццам нехта падмяняе...

**Р.К.:** — Я вам скажу, што ў фінале спартсмен проста абавязаны паказаць вынік лепшы, чым у кваліфікацыі.

**А.С:** — А Надзея паказвае горшы, і, на мой погляд, яна проста не вытрывала менавіта псіхалагічнага ціску. Крыўдна яшчэ і тое, што пасля я тэлефанаваў у нашу Федэрацыю лёгкай атлетыкі, і там у няўдачах спартсменкі спрабавалі абвінаваціць нават журналістаў: маўляў, гэта журналісты перад Алімпіядай пастаянна пісалі пра пастаўлены перад атлетамі план у 25 медалёў, тым самым нервавалі спартсменаў... Як быццам журналісты прыдумалі тыя самыя праклятыя 25 медалёў. Тут, лічу, усе пытанні да Аляксандраў Рыгоравічаў! Калі непасрэдна па няўдачах лёгкаатлетычнай зборнай і па недахопах у яе падрыхтоўцы — да галоўнага трэнера каманды Аляксандра Рыгоравіча Руцкіх, калі па медалёвым плане — да Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, які і ставіў той самы план.

**Р.К.:** — Калі ж алімпійцаў праводзілі ў Афіны, дык не журналісты давалі абяцанні, што заваююць 25 медалёў. Можна шмат малаціць языком, а на справе нічога не рабіць. Вы лепш паглядзіце, што зрабіла на Алімпіядзе наша спрынтарша Юля Несцярэнка! Увесь свет скалануўся! А яе два гады таму выключылі са школы алімпійскага рэзерву як неперспектыўную. І спартсменка не стала, як кажуць, "хадзіць па інстанцыях" і скардзіцца на тое, якія несправядлівыя ёсць людзі, якая яна няшчасная, а проста працавала. Ну які ж разумнік, скажыце, людзі добрыя, дасць план кампазітару напісаць за год тры оперы?! *(Смяецца.)*. Няма такога нідзе. Хаця за "неисполнение поставленной задачи" вінаватыя хутчэй за ўсё будуць знойдзены.

**А.С.:** — Галоўнае, каб не былі знойдзены без віны вінаватыя. І наогул лічу, што ставіць такія планы проста некарэктна. У спартсменаў і так дастаткова назіральнікаў — федэрацыі, трэнеры, жонкі альбо мужы... А калі вы ўжо і збіраецеся паставіць план, дык стаўце рэальны, а не з нябёс.

**Р.К.:** — І да таго ж неабходна нармальнае і рэгулярнае фінансаванне спорту, хоць напярэдадні Алімпіяды нашы спартыўныя чыноўнікі і казалі: у гэтым пытанні — аніякіх праблем.

**А.С.:** — Правільна — рэгулярнае! Як сказаў нядаўна алімпійскі чэмпіён па веласпорце Уладзімір Камінскі ў адным са сваіх інтэрв'ю, фінансаванне трэба пачынаць не за год да Гульняў, а за чатыры гады. І пад спорт трэба падводзіць не дзьмутую, а рэальную эканамічную базу, як гэта робіцца ў Кітаі, Аўстраліі, ЗША. У тым жа Кітаі народ штодня выходзіць на вуліцу на ранішнюю зарадку, а ў нас раз у год дабравольна-прымусова збіраюць людзей на лыжню, пра якую ўжо ходзяць анекдоты. Ды і хіба ні аб чым не гаворыць той факт, што вельмі і вельмі многія нашы спартсмены трэніруюцца за мяжой з-за адсутнасці нармальных матэрыяльна-тэхнічных баз на Радзіме?

**Р.К.:** — А ўвогуле, калі падводзіць нейкія агульныя вынікі Алімпіяды, то можна сказаць: калі выступленне нашых спартсменаў і не зусім апраўдала надзеі балельшчыкаў, то добра ўжо тое, што спартсмены хоць такім чынам праслаўляюць Беларусь.

**А.С.:** — І я проста ўпэўнены, што падчас стартаў спартсмены не думаюць пра медалі. Для іх спорт — гэта жыццё, праца, для многіх — загубленае здароўе... Сёння, на мой погляд, трэба менш займацца "закручваннем гаек", а спакойна рабіць высновы з апошняга ўрока і не паўтараць памылак у будучым.

**Р.К.:** — Гэта было б лепш за ўсё...

ПУЛЬС

## Юлія Несцярэнка выйдзе на старт толькі ў наступным годзе

*Алімпійская чэмпіёнка ў бегу на 100 метраў Юлія Несцярэнка не будзе больш прымаць удзел у спаборніцтвах у гэтым спартыўным сезоне.*

Днямі пра гэта заявіла сама спартсменка ў галоўным філіяле "Прыорбанка" па Брэсце і Брэсцкай вобласці, дзе ёй была ўручана "залатая картка" (Visa gold) гэтага банка: *"Перыяд аднаўлення ў мяне зацягнуўся, і, згодна з рэкамендацыямі спецыялістаў, у гэтым сезоне я больш не буду стартаваць. Але трэніравацца не перастану, каб паказаць хуткія секунды ў наступным годзе".*

Акрамя "залатой карткі", якая дазволіць Юліі Несцярэнка карыстацца паслугамі "Прыорбанка" ў любой краіне свету, алімпійская чэмпіёнка атрымала каштоўны сувенір — памятную банкаўскую манету наміналам у 1000 рублёў і вагой у 1 кілаграм.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## Максім мірна стаіць на месцы

*Асацыяцыя тэнісістаў-прафесіяналаў апублікавала новы штотыднёвы рэйтынг-ліст. У рэйтынгу спаборніцтваў 2004 года Максім Мірны застаўся на 61-й пазіцыі. У яго 97 ачкоў. Уладзімір Ваўчкоў апусціўся на 14 пазіцый і займае 157-е месца (14 ачкоў).*

Практычна не змянілася становішча і ў сапернікаў беларусаў па паўфінале Кубка Дэвіса. Эндзі Родзік застаўся на другім месцы (647 ачкоў), Мардзі Фіш апусціўся з 27-га на 28-е месца (173). Зазначым, што першае месца займае пераможца US Open швейцарац Ражэ Федэрэр (1087).

У рэйтынгу па выніках апошніх 52 тыдняў Э.Родзік — 2-гі, Мардзі Фіш — 27-мы, М.Мірны — 64-ты, У.Ваўчкоў — 161-шы.

У рэйтынгу тэнісістаў, якія выступаюць у парным разрадзе, дуэт Мірны / Бхупаці займае 6-е месца. Браты Майк і Боб Браяны — сапернікі Мірнага / Ваўчкова па Кубку Дэвіса — саступілі першае месца пераможцам US Open Марку Ноўлу (Багамы) / Дэніэлу Нестару (Канада).

У персанальным рэйтынгу парных тэнісістаў М.Мірны займае шостае месца, браты Браяны дзеляць 7-е месца.

**Алег РАЯВЕЦ.**

ПАСТФАКТУМ

## «Трэцяя пятка»

*Так называўся Першы міжнародны музычны фестываль, які днямі прайшоў у спарткомплексе "Уручча".*

У ім прынялі ўдзел больш за 20 музычных калектываў з Беларусі, Расіі і Украіны. На фестывалі групы прадставілі вялікую колькасць самых розных музычных стыляў, сярод якіх рэггі, хіп-хоп, ньюметал, метал і рок.

Арганізатары фестывалю **Андрэй Дашкоў** і **Вітаўт Цішкевіч** рыхтаваліся да "Трэцяй пяткі" каля года.

*"За гэты час мы правялі больш за 50 канцэртаў па ўсёй Беларусі,* — гавораць яны. — Сваёй працай мы хочам адкрыць дарогу ў будучае беларускай сучаснай музыцы. Фестываль "Трэцяя пятка" — з'ява, цалкам незвычайная для Беларусі. Гледачы даведаліся пра новыя музычныя накірункі, новыя імёны, новыя песні... Спадзяёмся, ён стане традыцыйным летнім святам для прыхільнікаў энергічнай музыкі і актыўнага адпачынку".

Дарэчы, у рамках фестывалю гледачы маглі паназіраць за выступленнямі ролleraў і скейтэраў. Сваё майстэрства прадэманстравалі таксама і папулярныя маладзёжныя цырульнікі-стылісты, якія абсалютна бясплатна прычосвалі ўсіх жадаючых.

**Вольга БЕЛАЯ.**

ЗАПРАШЭННЕ

## У падарожжа па Аўгустоўскім канале

**Турыстычная кампанія «Альтус плюс» запрашае вас у цікавую аднадзённую вандроўку па Аўгустоўскім канале.**

За час падарожжа вы пабываеце **ў Наўмовічах,** дзе зможаце ўбачыць фартыфікацыйнае збудаванне часоў Першай і Другой сусветных войнаў, а таксама помнік ахвярам Другой сусветнай вайны. Наведаўшы **Свяцк**, вы ўбачыце палацава-паркавы комплекс магнатаў Валовічаў, які датуецца XVIII стагоддзем. У мястэчку **Сапоцкін** знаходзіцца касцёл Ясафата Кунцэвіча — калі Вы паедзеце ў вандроўку, то зможаце ўбачыць і гэты гістарычны помнік. Далей вы адправіцеся ў **Сонічы** — да крыжа, усталяванага ў гонар загінуўшых паўстанцаў у паўстанні 1863 года. І апошняя кропка аднадзённага падарожжа — мястэчка **Нямнова,** дзе захаваўся адзіны на канале трохметровы шлюз.

Ад'езд у вандроўку — 19 верасня. Больш падрабязную інфармацыю вы зможаце атрымаць па тэлефоне **(017) 222-88-76.**

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**



## Полацк хваліцца новым дваром

*У Полацку на дваровай тэрыторыі паміж вуліцамі Камсамольскай і Энгельса (камуністычныя ідэалы тут усё яшчэ жывыя) створаны "эталонны двор". Яго адкрыццё адбылося ў дні нядаўняга Першага міжнароднага экалагічнага фестывалю.*

Фестываль скончыўся, "эталонны двор" застаецца.

Аўтар праекта гэтага ўзорнага двара галоўны архітэктар Полацка Ігар Куржалаў патлумачыў новаўвядзенне так: "Падобныя аб'екты з'явіліся ўжо ў тых беларускіх гарадах, дзе адбываліся нацыянальныя экалагічныя фестывалі, — у Магілёве і Оршы, таму ў сувязі з нашым міжнародным фестывалем проста неабходна было ажыццявіць нешта не горшае і ў Полацку".

Праўда, Полацкі "эталонны двор" асаблівы. Тут ёсць тое, чаго няма ў іншых месцах аналагічнага прызначэння: пляцоўка для гульні ў міні-футбол з гумавым пакрыццём, спецыяльныя навесы для сучасных смеццевых бачкоў з асобным зборам шкла, пластмасы і паперы, а таксама дзіцячая пляцоўка з дэкаратыўным замкам на падмурку з валуноў, фасад якога ўпрыгожаны сонечным гадзіннікам і флюгерам, а побач з гэтым амаль казачным замкам — альтанкі, арэлі, тэнісны стол і нават невялічкая аўтастаянка.

На думку архітэктара І.Куржалава, такія двары мусяць стаць звычайнай з'явай для Полацка, а затым — і для ўсіх гарадоў краіны.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## 8 октября можно будет выиграть 25 тысяч долларов. Вот это фишка!

*Именно 8 октября славное столичное казино "Эмир" отмечает свое 10-летие и в этот день преподнесет своим клиентам неплохой подарок — кто-то станет обладателем 50 миллионов рублей (около 25 тысяч долларов).*

В принципе, обладателем приза может стать каждый. Что для этого нужно? Просто посетить казино, купить хотя бы одну фишку, поиграть. Дальше условия розыгрыша вам доступно объяснят сотрудники казино. Кстати, лотерейные билеты, которые будут участвовать в розыгрыше, выдаются посетителям "Эмира" уже полгода и будут выдаваться до юбилейного дня.

После розыгрыша приглашенным гостям тоже скучать не придется — развлекательная программа обширна и обильна. Ну а гвоздь программы — **Кристина Орбакайте.**

**Алесь СИВЫЙ.**

15
верасень

**СЕРАДА**
Усх. 6.42 Зах. 19.25
Даўж. дня 12.43
Маладзік 14 верасня

**75 гадоў** з дня нараджэння А.М. Кашкурэвіча, беларускага графіка, народнага мастака Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь

## 33-гадовы трактарыст загінуў у ахопленым агнём трактары

Выпадак адбыўся ў вёсцы Асарэвічы Брагінскага раёна Гомельскай вобласці. Трактар стаяў каля дома, дзе жыў трактарыст, а сам трактарыст у гэты час знаходзіўся ў кабіне. З-за позняга выяўлення пажару да прыбыцця ратавальнікаў трактар ужо быў поўнасцю ахоплены полымем.

Прычынай пажару стала неасцярожнасць трактарыста пры курэнні.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

НА ТЭМЫ МАРАЛІ

# Лішні чалавек

Надвячоркам пайшоў дождж. Чыстыя яго кроплі скакалі па чорных галавешках пажарышча. У вясновым паветры раптам перамяшаліся два пахі: жалобны і страшны — нядаўняга пажару і малады і радасны — першых зялёных лісточкаў. На пажарышчы стаяў высокі худы чалавек. Старая, даўно нямытая вопратка, зарослыя шчаціннем шчокі. Ён глядзеў на галавешкі, і па змучаным твары сцякалі не то слёзы, не то кропелькі дажджу. Усяго некалькі дзён таму тут была яго хата — адзіны на свеце прытулак, адзіны куточак на зямлі, дзе можна было схавацца ад холаду і непагадзі і схаваць сабачку — самую блізкую на свеце істоту. Сюды да яго прыходзілі знаёмыя — гэтакія ж нешчаслівыя ў жыцці, як і сам, забягалі вучні мясцовай школы-інтэрната. Злыя людзі кажуць, што дзеці вымагалі ў яго грошы. Няпраўда. Ён сам даваў, як меў, бо адчуваў, што яны таксама пакрыўджаны лёсам, як і ён. Тут, у завулку Вішнёвым, у яго былі суседзі — добрыя і бескарыслівыя. Часта прыносілі адзінокаму нямогламу чалавеку то кавалачак сала, то літр малака. У час пажару згарэла не толькі яго хата, але і выгарэла датла адзінокая і шматпакутная душа.

Ён яшчэ раз акінуў поглядам мокрыя галавешкі і, накульгваючы на хворую нагу, паволі пакрочыў на вуліцу Якуба Коласа, дзе пасялковы Савет, паспачуваўшы бядзе пагарэльца, выдзеліў яму прытулак у драўляным шматкватэрным доме. Ён не мог не заўважыць, як варожа сустрэлі яго новыя суседзі, як ён перашкаджае ім сваім неахайным выглядам, старасцю, хваробамі. Цяплее на сэрцы толькі ад таго, што добрыя людзі з пасялковага Савета не пакінулі на волю лёсу. Вось і кватэрку выдзелілі, а таксама прывезлі ложак, матрац, падушку. Райвыканкам выдзеліў сродкі, на якія купілі посуд, пасцельную бялізну, што-кольвечы з зімовай вопраткі. Ёсць у яго цяпер дах над галавой, пенсію атрымлівае. Хоць і небагата, але пражыць можна. Каб жа не калючая, ледзянячая душу варожасць суседзяў. Як бы хацелася яму пачуць цёплае слова, убачыць ласкавы погляд, бо мала чалавеку трэба, каб палягчэла на душы. А так ён адчувае сябе лішнім, непатрэбным у гэтым доме, дзе людзі зжыліся гадамі. Такое суседства ім вельмі не даспадобы.

А было ж, было некалі і ў яго шчасце. У далёкай маладосці Сяргей Кавалеўскі быў у сваіх мясцінах, што называецца, на віду. Высокі, прыгожы, умеў добра шыць, іграць на гармоніку. Ажаніўся. Нарадзілася трое дзетак. І невядома адкуль падкралася раптам псіхічная хвароба. Жонка забрала дзяцей і паехала ў белы свет шукаць шчасця. Ён застаўся адзін на адзін са сваім горам.

Цяжкімі валунамі пакаціліся гады, праведзеныя ў адзіноце. Людзі не цураліся яго, бо нічога дрэннага нікому не рабіў. Вылечыцца канчаткова не меў надзеі. Так і жыў божай і людской міласцю. І жыў бы, каб не гэты пажар.

Падобна на тое, што новыя суседзі не маюць намеру цярпець у сваім доме Сяргея Кавалеўскага. Суседзі гэтыя — нядрэнныя людзі: працавітыя, акуратныя, самі не з вялікай раскошы. Яны Кавалеўскага на словах шкадуюць, спагадаюць яго бядзе і ў той жа час адкрыта выжываюць са свайго дома. Хто спрачаецца, суседства старога хворага чалавека, які не ў стане сачыць за сваёй знешнасцю, падтрымліваць у належнай чысціні жыллё — невялікая радасць. Але трэба падумаць і пра тое: куды ж яму падзецца?

— Няхай пасялковы Савет дае яму кватэру з усімі зручнасцямі, — заяўляюць яны. Можна падумаць, што кватэр тых у пасёлку выбірай — не хачу. Добра, што хоць гэтыя два пакойчыкі якраз вызваліліся, а так наогул невядома, дзе было б пасяліць чалавека.

— У дом-інтэрнат няхай адпраўляюць, — падрыхтавалі суседзі новую версію.

Па медыцынскіх паказаннях ён не належыць да людзей, якіх трэба ізаляваць ад грамадства. Тут такі выпадак, калі трэба лічыцца з жаданнем чалавека. А Сяргей Кавалеўскі не хоча ў дом-інтэрнат. І сілай яго завезці туды ніхто не мае права. Гэтак жа, як і кожнага з нас.

Жыхары дома паслалі ў высокую інстанцыю пісьмо, змест якога лічу патрэбным прывесці поўнасцю: "У красавіку сёлетняга года ў наш дом пасялілі Сяргея Іванавіча Кавалеўскага, бо яго ўласны дом згарэў. Чалавек гэты псіхічна хворы. Ён спаліў свой дом, а цяпер на чарзе наш. Мы не спім начамі ў жаху, каб хоць уцячы. Тым людзям, якія так лёгка вырашылі праблему з жыхарствам Кавалеўскага, мабыць, усё роўна, колькі яшчэ пагарэльцаў з'явіцца ў пасёлку. Гэта ж усё роўна, як паставіць каністру з бензінам каля палаючага вогнішча. Просім дапамагчы нам вярнуць спакой". (Дарэчы, дом ён не спаліў. Была няспраўная электраправодка.)

— Кавалеўскі перашкаджае вам? — пытаю ў адной суседкі. — Можа, чым крыўдзіць, абражае?

— Ды не, — адказвае яна. — Ён як прачнецца на ўсходзе сонца, то адразу ідзе на сваё пажарышча. Ціхі, маўклівы. Але ж ён стары, хворы, неахайны. Трэба яго ў дом састарэлых. Нам такі сусед не патрэбны. Будзем усюды пісаць, скардзіцца. Няхай забіраюць яго адсюль куды хочуць.

Вось так. А куды яго забраць? Жывая ж душа, пад плот не выкінеш.

Часта ўспамінаю словы, сказаныя адным разумным чалавекам: "Ты ведаеш, мне сярод людзей іншы раз бывае страшней, чым у цёмным лесе..." Тут якраз такі выпадак.

Не раз думаю, як лёгка быць добрым на словах. Пустыя спачуванні, шкадаванне. Льюць слёзы, гледзячы бразільскія серыялы, а суседа-калеку, што жыве ў адным доме, не шкадуюць. І як лёгка іншы раз людзі распараджаюцца чужым лёсам: таго ў дом састарэлых, а гэтага на Курыльскія астравы не шкодзіла б перасяліць. І не думаюць пра тое, што не сёння-заўтра ў становішчы Сяргея Кавалеўскага можа аказацца любы з нас, што і старасць, і хваробы, і пажары ходзяць па свеце без перапынку. Хто наступны?..

Нікому непрыемна суседства бездапаможнага старога калекі. А хто сказаў, што мы павінны рабіць у жыцці толькі тое, што прыемна? І замест таго, каб так дружна ваяваць супраць безабароннага Сяргея Кавалеўскага, суседзям трэба павярнуцца да яго не тварам — душой. А яна падкажа, што і як зрабіць.

Я не хачу гаварыць пра міласэрнасць. Гэта слова ў апошні час так зацягалі, што яно пачало губляць свой высакародны сэнс. Прашу толькі аб адным: людзі, пабойцеся Бога! Ніхто на гэтым свеце не лішні. А жыццё такое кароткае і такое нетрывалае, як павуцінка на асеннім іржышчы. Памятайце, калі ласка, пра гэта.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

**Среда, 15 сентября**

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12,00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30** "Деловая жизнь".
**09.05 "Возвращение Мухтара".** Сериал.
**10.05** "Арсенал".
**10.30 "Путь оливок и лаванды".** Сериал.
**11.05, 18.15 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.10 "Влюблен по собственному желанию".** Мелодрама.
**13.40** "За вратами забытых мелодий". Док.фильм.
**14.05** "Зона Х".
**14.15** "На перекрестках Европы".
**15.15 "Команда "SOS".** Сериал.
**16.05** "5х5".
**17.05** "Кстати".
**17.35** "Спасатели".
**19.05** Хоккей. Кубок мира-2004. Финал.
**21.00** "Панорама".
**21.40** Футбол. Лига чемпионов. Матч тура. Прямая трансляция.
**23.40** "Витебск — мой город родной". Концерт.
**00.20** Футбол. Лига чемпионов. Обзор игрового дня.

**ОНТ**

**Внимание! В Бресте и Брестской области с 09.05 до 16.50 — техническая профилактика.**
**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.10** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 19.05 "Клон".** Сериал.
**09.55, 18.10** "Дом". Реалити-шоу.
**10.45** "Не только о футболе".
**11.05** "Дисней-клуб".
**15.55 "Женщины в любви".** Сериал.
**16.50** "Пять вечеров".
**20.00** "Время".
**21.00 "Черный ворон".** Сериал.
**22.05 "Антикиллер-2".** Боевик.
**23.25** "Народный артист".
**23.40** "Лубянка".

**РОССИЯ**

**07.45, 17.50 "Марш Турецкого".** Сериал.
**08.45, 16.50 "Ундина. На гребне волны".** Сериал.
**09.45, 18.50** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50 "Бедная Настя".** Сериал.
**11.50** "Что хочет женщина". Ток-шоу.
**16.20 "Кулагин и партнеры".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**19.55 "Каменская-3".** Сериал.
**22.00** "Вести+".
**22.20** "Отряд космических дворняг". Док.фильм.
**23.25 "Катала".** Драма.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 20.45** Новости.
**08.10** "Мир вашему дому". Духовная беседа.
**08.20** ("Культура") **"Оркестровая яма". Ток-шоу.**
**09.00** ("Культура") **"Острова".**
**09.40, 17.50 "Шестеро неутомимых".** Сериал.
**10.45, 15.40** Мультфильмы.
**10.55, 18.55 "За кулисами".** Мелодрама.
**11.45** "Обычный необычный день".
**12.15 "Игра на двоих".** Комедия.
**14.10** "Ностальжи".
**14.35** "Золотое сечение". Научно-познавательная программа.
**15.05** "Не зевай!".
**15.15** "Бум".
**16.00 "Нежный возраст".** Сериал.
**16.25** "Славянский базар в Витебске-2004".
**16.40** "Фауст Арлена". Док.фильм.
**17.00** "Из архивов БТ".
**17.25** "Фольк-модерн".
**19.45** "Дела семейные".
**20.30** "Колыбельная".
**21.00** ("Культура") **"Апокриф".**
**21.40** ("Культура") **"Эпизоды".**

**НТВ**

**09.00, 15.00, 18.00, 23.30** "Сегодня".
**09.15** "Преступление в стиле модерн".
**09.50** "Женский взгляд".
**10.20** "Растительная жизнь".
**10.50, 18.40 "Улицы разбитых фонарей-6".** Сериал.
**15.20** "Принцип домино".
**16.25 "Таксист".** Сериал.
**17.35** "Криминальная Россия".
**19.50 "Фабрика грез".** Мелодрама.
**21.00** "Страна и мир".
**21.40 "Секс в большом городе".** Сериал.
**22.15, 23.45 "Паутина лжи".** Драма.

**СТВ+RenTV**

**06.20, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.35** "Рыцари-забияки". Мультсериал.
**07.00** "Кот по имени Ик". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.05, 20.10** "Минск и минчане".
**08.15, 23.10** "Технология".
**08.25, 20.35** "Автопанорама".
**08.45** "Закон и криминал".
**09.00** "Таракан-робот". Мультсериал.
**09.30 "Громовое сердце".** Триллер.
**11.10** "Дикая планета". Док.фильм.
**12.00** "Час суда".
**12.45** "Горячий лед".
**13.05** "Есть край один", "18 дней и ночей". Док.фильмы.
**13.50, 18.30 "Провинциалы".** Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или Обезображенные". "ОБЖ, или Обжегся".** Сериал.
**15.35** "Маска". Мультсериал.
**16.00** Мультфильмы.
**16.15** "Тема дня".
**16.50** "Игровой рефлекс".
**17.00 "Медики".** Сериал.
**18.15** "Здравствуйте, доктор!".
**20.20** "Добрый вечер, малыш".
**20.55 "Снайпер".** Боевик.
**23.20** "Проект "Отражение".
**00.05 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.50** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.00 "Старая крепость".** Сериал.
**08.10, 17.50, 19.40** "Телемагазин".
**08.15** "Классика Уолта Диснея". "Пострелята". Мультфильм.
**09.15** "К-игра".
**09.20** "Сокровища". Док. сериал.
**09.40, 19.50 "По имени "Барон".** Сериал.
**10.30, 21.05 "Остров огня".** Боевик.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**16.45 "Собака на сене".** Комедия.
**18.00 "Такси-2".** Боевик.
**19.35** "К-видео". "Топ-8".
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...

**ТВ ЦЕНТР**

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45 "Бес в ребро".** Детектив.
**09.15** "Опасная зона".
**09.30** "Доходное место".
**09.40** "Окна нашего времени".
**09.45** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00. 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.10** "Отдел "Х".
**11.50** "Квадратные метры".
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.30** "Мода non-stop".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Каля-маля".
**16.00 "Комиссар Мулен".** Детектив.
**17.15** "Русский век".
**18.00 "Таковы эти женщины".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55** "Совершенно секретно".
**20.40** "Репортер".
**21.40** "Материк".
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45** "Супердиск".
**00.00 "По закону".** Сериал.
**01.00** "Синий троллейбус".

**EUROSPORT**

**09.30** Экстремальный спорт. "Молодежная зона".
**10.00** Футбол. Кубок "Данон".
**10.30** Горный велосипед. Чемпионат мира во Франции.
**11.30** Олимпийские игры. "Цель — Афины".
**13.00** Футбол. "Еврголы".
**14.00** Спидвей. Гран-при Словении.
**15.00** Велоспорт. Тур Испании.
**16.30** Летние Олимпийские игры в Афинах.
**18.30** Бокс. Летние Олимпийские игры в Афинах.
**20.30** Конный спорт. Кубок наций "Самсунг" в Канаде.
**21.30** Гольф. Европейский турнир в Германии.
**22.00** Гольф. PGA США. Турнир Bell-Canadian Open.
**23.00** "Парусный спорт". "Под парусом".
**23.30** Олимпийские игры. Культурная программа.
**23.45, 01.15** Конный спорт. Шоу.
**00.15** Мультиспорт по средам.
**00.30** Рейд приключений. Франция—Италия.
**01.00, 02.15** Новости "Евроспорта".

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail: nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**


Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 570 экз. Заказ № 732.